№9(192)

# ПАХОДНЯ

*Грамадска-палітычная газета*

Травень 2015 г.

## КАЛОНКА НАВІН

### У краіне

**Реальный размер пенсий снизился в марте 2015 года.**

В марте 2015 года на учете в органах по труду, занятости и соцзащите состояло 2 996 000 пенсионеров. Средний размер назначенных им пенсий составил 2638,2 тысячи рублей, что в 2,4 раза превышает бюджет прожиточного минимума для пенсионеров. Реальный размер пенсий, рассчитанный с учетом изменения потребительских цен на товары и услуги, в марте текущего года по сравнению с мартом прошлого года уменьшился на 1,6%. По сравнению с февралем 2015 года снижение составило 0,8%.

### У Прыдняпроўі

**Реальная заработная плата снова уменьшилась.**

Номинальная начисленная среднемесячная заработная плата работников Могилевской области в I квартале 2015 г. составила 5 393,6 тыс. рублей, в том числе в марте – 5 633,5 тыс. рублей, и увеличилась по сравнению с февралем 2015 г. на 6,5%, или на 343,7 тыс. рублей.

Реальная заработная плата (заработная плата, рассчитанная с учетом роста потребительских цен на товары и услуги) в I квартале 2015 г. по сравнению с I кварталом 2014 г. уменьшилась на 5,1%, в марте 2015 г. по сравнению с февралем 2015 г. увеличилась на 5,7%.

### У раёне

Сёлета на дарогах раёна адбыліся 6 аварый, у выніку якіх 1 чалавек загінуў і 7 атрымалі траўмы. Ва ўсіх шасці выпадках вадзіцелі не мелі вадзіцельскага пасведчання.

**Магазин “Ласточка”** Белыничского райпо признан “Лучшим магазином системы потребкооперации с торговой площадью более 500 кв. м.” в Могилёвской области.

**Средняя заработная плата** по народному хозяйству Белыничского района в марте 2015 года сложилась на уровне Br5512,5 тыс.

# У МАГІЛЁЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ ЗАРОБКІ РАСТУЦЬ ТОЛЬКІ Ў БЮДЖЭТНІКАЎ

***Нашы мудрыя статыстыкі падвялі вынікі працы Магілёўскай вобласці ў першым квартале 2015 года і абвясцілі некаторыя цікавыя лічбы.***




У прыватнасці, працаўнікі на ніве статыстыкі з імпэтам паведамілі пра тое, што намінальная налічаная заработная плата працаўнікоў арганізацый Магілёўскай вобласці ў 1 квартале 2015 г. склала 5 393,6 тыс. рублёў, у тым ліку ў сакавіку – 5 633,5 тыс. рублёў, што на 343,7 тыс. рублёў, альбо 6,5% больш, чым у лютым 2015 года.

Праўда, калі параўноўваць з першым кварталам 2014 года, адразу высвятляецца, што рэальная зарплата працаўнікоў у Магілёўскай вобласці не толькі не вырасла, а, наадварот, знізілася на 5,1%, а ў тым жа сакавіку ў параўнанні з сакавікам 2014 г. знізілася яшчэ больш – на 5,2%. Між тым, згодна зацверджанага Пастановай Савета міністраў Рэспублікі Беларусь ад 24 снежня 2014 г. № 1238 празноза на 2015 г. сярэдні заробак у Магілёўскай вобласці павінен складаць не 5 630 тыс., а 6 120 – 6 140 тыс. рублёў…

Аднак яшчэ цікавей мне стала далей, калі я пачаў больш уважліва аналізаваць дадзеныя нашых слаўных магілёўскіх статыстыкаў. Аказалася, што на сам рэч ў нашай вобласці хоць неяк растуць заробкі толькі ў працаўнікоў бюджэтнай сферы – у бюджэтных арганізацыях намінальная налічаная сярэднямесячная заработная плата ў 1 квартале 2015 г. склала 4 852,8 млн. рублёў, у тым ліку ў сакавіку – 5 038,7 тыс. рублёў, (на 231,3 тыс. рублёў, альбо на 4,8% больш, чым у лютым 2015 г.). Рэальная заработная плата ў бюджэтных арганізацыях у 1 квартале 2015 г. параўнанні з 1 кварталам 2014 г. павялічылася на 5,1%.

Цікава, што ў той жа час у прамысловасці Магілёўскай вобласці у сакавіку сярэдняя заработная плата склала 6 020 тыс рублёў і знізілася ў параўнанні з сакавіком 2014 г. з улікам росту спажывецкіх цэн на тавары і паслугі на 11,3%, у будаўніцтве – 6417,7 тыс. (знізілася на 8,1%), на транспарце і ў сувязі – 6 462,7 (знізілася на 3,2%), у сельскай гаспадарцы, паляўніцтве і лясной гаспадарцы – 4 572,7 тыс. (знізілася на 1,6%).

*(Заканчэнне на стар. 8)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# «КУРОЧКА НА ГНЕЗДЕ»…

***Почему мы так плохо живём? Почему с каждым прожитым годом у нас заоблачно растут цены на всё? И наши зарплаты и пенсии не успевают за этим «бегом»…***

Я выражу лично своё мнение. Потому что мы привыкли жить в долг и не по средствам. Все! Или почти все! Уже стало, как в том анекдоте, когда родители жаловались, что ещё не выплатили долги за свадьбу, а семья уже распалась. Вот так и наше государство. Ради «государственной свадьбы» - Дожинок, готовы выскочить из штанов, пустить пыль в глаза «гостям», которые, порой, даже не являются сельскими тружениками. В прошлом году, торопясь на республиканские «дожинки», праздник села в Круглянском районе провели впопыхах, в будний день, даже не потрудившись свезти этих сельских тружеников в посёлок на заработанные ими чествования.

Этот год нас «осчастливили» и областной праздник пройдёт в нашем районе, став звёздным часом для нашей «женщины года», так как единственное, что она умеет проводить, так это семинары по обмену опытом (какому – не важно) и всевозможные праздники. В общем, женщина – праздник! А так как она занимает высокий в условиях района пост, то тем, кто ей угодил, тоже не дурно перепадает. Вот и руководитель такой организации, которую в простонародье называют «сельхозтехника», стал человеком года не за то, что, как всем известный Патрончик Николай Васильевич, застроил жилыми и культурными объектами не только наш районный центр, а потому, что очень своевременно распахал древние могильники, добавив в севооборот энное количество, я так думаю, неучтённых сельхозугодий, что «положительно» отразится на урожайности круглянских полей. После этого события эта парочка прославилась на весь интернет и, видимо, благодаря этой «славе», как утешительный приз, они стали лауреатами этих званий. Я, вообще, думаю, что если бы круглянцев спросили об этом, то звание человека года они неизменно оставляли бы за руководителем ПМК-266 Патрончиком Н.В., потому что он единственный человек, результат труда которого виден в районе. А звание женщины года присудили бы хотя многодетной матери, потому что давать звание по единственному качеству, по признаку пола, безнравственно.

Но о деле. Подготовка « к празднику «дожимок» в самом разгаре. Приказали долго жить более сотни деревьев в парке и на стадионе. Окультурили стадион так, что зрителям не будет где спрятаться даже от ветра. Но особенно осчастливили районную библиотеку, в которой не было ремонта со времени строительства. Сейчас там, где было книгохранилище, будут общественные туалеты на несколько мест. Где будут книги – это не важно. Разве умной книгой поразишь начальственный зад, привыкший с комфортом восседать в кресле! А то, что на наш район будет нашествие всевозможных «рука-водителей», никто не сомневается. Это ради того, чтобы не омрачать их озабоченный великими делами взор, районная библиотека и дом культуры превратились в ударную стройку, на которую будет потрачено такое количество денег, что их бы с лихвой хватило на то, чтобы закупить годовой урожай, не засевая полей в Круглянском районе. Что нам ещё преподнесёт земля-матушка и погода-мачеха - мы не знаем. Порадуют ли они нас большим урожаем, или мы соберём всё опять с гулькин нос, и всю зиму будем чесать «репу» и метаться по знакомым в поисках кормов для личного подсобного хозяйства. Про СПК я лучше помолчу, про жизнь колхозной скотины нам неизвестно. Об этом уже не первый год молчит и районная газета «Сельскае жыццё». Может и к лучшему, зачем омрачать душевный покой жителей района. Поэтому на первой полосе газеты мы видим одни и те же лица, которые ведут нас к процветанию страны. О том, как они празднуют и заседают, знают все труженики нашего бедного дотационного района. А так как промышленность наша приказала долго жить, то, видимо, долги нам приносят, несмотря на успехи ПМК-266, всё-таки наши СПК. Что и неудивительно! Ведь если бы все эти деньги, которые потратятся на неважные в наше время объекты культуры, «пир во время чумы», вложить в модернизацию сельского хозяйства района, если всё это сделать открыто, так чтобы народ знал, куда потрачены деньги, то мы, наверное, больше бы оценили хозяйственную деятельность райисполкома. Сейчас же мы наблюдаем «мышиную возню» и у многих болит душа за бездарно потраченные средства, которые никогда не дадут отдачу. И это в то время, когда кризис своей костлявой рукой многих держит за горло. Когда каждый боится потерять работу, а пенсионеры - ощутить на себе задержку выплат пенсий. Невозможно долго жить в долг. Всё равно придёт время эти долги отдавать.



В этом году не было снега. Земля уже в марте месяце стояла пересохшая и, не смотря на тепло, не спешит расти трава. Говорят, что осенью сельхозпредприятия не успели засеять зерновыми все планируемые озимые поля. Не хватало денег на солярку. Какой будет урожай, волнует только некоторых, ещё не очерствевших душой и здравомыслящих людей. А руководство района самозабвенно «греет сковородку», вбухивая в стройки развлекательных объектов миллионы народных денег. Создаётся впечатление, что жизнь района похожа на жизнь больной убогой старухи, у которой хватает сил вымыть только лицо, и в грязной неопрятной одежде выйти к людям, в надежде,

*(Окончание на стр. 4)*

# ЁН СКОНЧЫЎ МАГІСТРАТУРУ, БАЛАТАВАЎСЯ Ў ДЭПУТАТЫ, А ЗАРАЗ ПРАЦУЕ НАСТАЎНІКАМ У БЯЛЫНІЦКІМ РАЁНЕ

***Яўгеній Дудкін не хоча быць прэзідэнтам і расказвае, як маладому жыць так, каб не было сорамна.***

***Тысяча словаў маладога чалавека, які прынцыпова размаўляе па-беларуску, верыць у бога і спакойна адпрацоўвае размеркаванне пасля спробы стаць дэпутатам мясцовага савету.***

- Ведаю, што працуеце ў звычайнай школе недзе ў Бялыніцкім раёне. Як атрымалася, што адзін з лепшых студэнтаў апынуўся там?

— Размеркаванне — стандартная на сённяшні дзень працэдура ў сістэме адукацыі, згодна якой студэнты атрымліваюць месца працы. Гледзячы многім у вочы, магу сказаць, што размеркаванне — прымусовае. Чаму? Мала хто з выпускнікоў мае цвердае рашэнне і асабістае жаданне адпрацаваць на карысць дзяржавы ў далёкіх куточках вобласці.

Таму многія пяцікурснікі, яшчэ студэнты, шукалі месца працы бліжэй да дому, прыносілі ў дэканат заявы ад імя дырэктароў школ, каб ўладкаваць дадзенага выпускніка да іх навучальнай ўстановы. Гэта цяжка зрабіць, ўлічваючы той факт, што месцаў вольных, асабліва ў Магілёве, на пасаду настаўніка гісторыі — вельмі мала і нават рэдкасць.

Што тычыцца мяне, то не такі я і самы лепшы студэнт. Сапраўды, сярод адкурснікаў мой сярэдні бал быў вышэйшы за іншых, але не выдатніка. Толькі паступовa, з пераздачай ў летнюю сесію на 3 курсе я ўпершыню здаў на 9 усе іспыты. Пазней надалей на выдатна здаваў іспыты, але не заўсёды: на 4 курсе заваліў методыку выкладання і нават не пераздаваў. Што тычыцца майго ўласнага размеркавання ў Бялынічы, то па рэйтынгу паспяховасці сярод аднагрупнікаў я быў другі. Таму быў ўпэўнены, што адно месца ў магілёўскім раёне магчыма будзе за мной. Але мне не хапіла…

Бацькі прапанавалі шукаць месца ў Гродна. Адмовіўся. Вырашаў адпрацаваць 2 гады ў Былынічах: з гэтага краю паходзіць род майго бацькі. Для мяне мае родныя у Бялынічах сталі апорай у маім рашэнні працаваць па размеркаванні.

- Як, на Вашую думку, маладыя людзі павінны ставіцца да размеркавання?

— Як да гэтага я стаўлюся? Некатэгарычна. Чаму? Трэба прызнаць той




факт, што вёска амаль вымерла, зараз паўстае пытанне малых раённых цэнтраў. Вялікія грошы былі раней накіраваны на падтрымку ў выглядзе пабудовы аграгарадкоў, але толькі частка змагла стаць на ногі. Але і там жывуць людзі. Многія пьюць з-за адсутнасці працы, крадуць, іх дзеці не бачаць нічога добрага. Хто разумнейшы — з'язджае ў Бялынічы ці іншую больш крупную мясціну.

Але тыя, хто застаўся — таксама нашы людзі: беларусы. Ехаць трэба. Гэта навука паглязець на жыццё з нізу. Але тая сістэма ільгот і заахвочвання маладых спецыялістаў, якая існуе, не дае магчымасцяў сябе рэалізаваць. Павінен быць настаўнік з мясцовых жыхароў, які ведае зямлю, людзей, умовы жыцця, шырокую і доўгатэрміновую падтрымку дзяржавы (дзейсныя ільготы на аўто, пабудову), каб гэты чалавек ведаў, што ён працуе на сваёй зямлі і для сваіх людзей, глядзеў на жыццё з перспектывай у будучыню. Нават калі сусветны крызіс пачнецца, то спадзяваўся на свой зароблены дабрабыт і ўмовы працы.

Баяцца размеркавання не трэба. Трэба баяцца адсутнасці ведаў сваіх правоў. Я памятаю, што пасля магістратуры ў мяне, можна сказаць, быў козар — ступень магістра. Ў размовах у аддзеле кадраў я настойваў на размеркаванні ў райцэнтры. Для мяне размеркаванне было прынцыповым, я вёў барацьбу за ўмовы працы і — дабіўся. Праўда, зараз маладыя спецыялісты мала ведаюць свае правы:

а). на першы год можна 100% адмовіцца ад класнага кіраўніцтва;

б) калі няма поўнай стаўкі ў 20 гадзін па спецыяльнасці, то патрабаваць прызнання ад адміністрацыі ўстановы адсутнасці гадзін, а з ёй вяртанне ва ўнівер за новым размеркаваннем (і калі ў ва ўніверы няма прапаноў, то атрымаць свабодны дыплом). І канешне, лепш ехаць дадому на месца працы. А калі хочаце пабачыць сапраўднае жыццё беларусаў, то язджайце на раён на размеркаванне. Таму скажу адно: трэба ведаць свае правы і ўмець іх абараняць і тады размеркаванне не страшна (з вопыту ўласнага і сваіх калег).

- Кім Вы плануеце быць далей — працягваць настаўніцкую дзейнасць ці сысці?

— Пакуль асноўная мая задача — гэта адпрацаваць другі год размеркаваня. Кідаць настаўніцкую працу не збіраюся, але шмат залежыць у гэтым ад вольных гадзін, дзе я буду жыць пасля размеркавання. Не думаю. што поўнасцю звяжу сябе са школай, але і катэгарычна парываць не планую.

- Наколькі Вы патрыёт і чым Ваш патрыятызм адрозніваецца ад таго, што мы бачым на бігбордах «Я люблю Беларусь»?

— Дома бацькі вучылі што патрыятызм можна акрэсліць сваімі

*(Заканчэнне на стар. 4)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ЁН СКОНЧЫЎ МАГІСТРАТУРУ, БАЛАТАВАЎСЯ Ў ДЭПУТАТЫ, А ЗАРАЗ ПРАЦУЕ НАСТАЎНІКАМ У БЯЛЫНІЦКІМ РАЁНЕ

*(Заканч. Пачатак на стар. 3)*

ўчынкамі да бліжняга. Пра свой патрыятызм мне казаць цяжка — у маёй сям'і гэты не прынята абмяркоўваць. Што тычыцца беларускасці і любові Беларусі, то я стараюся (хаджу на беларускамоўныя курсы «Мова-Нанова») размаўляць па-беларуску паўсюль: з адміністрацыяй школы, аддзела адукацыі раёна; быць адказным грамадзянінам, сынам у сям'і, настаўнікам на працы.

Мову мясцовыя ўлады прымаюць пазітыўна. Паўстае толькі адно пытанне: «Што стаіць за мовай, палітыка ці асветніцкая праца?» Гэта адчуваецца. Таму ўспамінаю аднаго з выкладчыка ва ўніверсітэце Г.І. Вачкова: «Памятайце словы Леніна: «Кожная ўлада павінна сябе абараняць, калі лічыць сябе ўладай». Гледзячы на шматлікасць помнікаў Леніну ў нашай краіне, можна зрабіць адмысловыя вынікі :).

У размове з бялынічанамі я вызначыў, што большасць за беларускую мову, але ім цяжка яе зразумець, яшчэ больш — казаць. Прычыну бачаць у малай колькасці беларускамоўных назваў. Думаю, калі паўсюль будзе беларускае слова, то яно будзе і ў думках, і ў разважанні, і ў сэрцы і прымацца будзе аўтаматычна без агляднкі на тое, што беларускае слова ці рускае.

Вельмі важна, каб беларусы навучыліся быць добрымі самараніцянамі, дапамагаць адзін аднаму і агульнай карыснай Айчыне справе, незалежна ад палітычных поглядаў. Тут мне падабаюцца словы благаслаўлёнага біскупа магілёўскага Баляслава Слонсканса: «Нацыя не загіне, калі нават яе заваюе больш моцны вораг, нацыя загіне, калі дабраахвотна страціць сваю маральнасць». У канцы 17 ст. шляхта Рэчы Паспалітай, потым дваранства Расійскай імперыі ў пач. 20 ст., потым камуністы СССР 80-х гг. паказалі, як можна страціць сваю дзяржаву з-за ўласных карысных інтарэсаў. Для мяне сапраўдным прыкладам патрыёта ёсць Леў Сапега, адзін з складальнікаў Статута ВКЛ 1588 г.

- Вы балатаваліся ў дэпутаты, шмат размаўлялі з людзьмі и шмат чаго бачылі. Як Вы лічыце, у чым галоўная праблема нашага грамадства?

— Наша беларуская праблема — гэта балота, якое ахоплівае наша грамадства. Балота ў працы, калі малыя заробкі і няма перспектывы развіцця праз ініцыятывы, і самае галоўнае — балота ў сям'і, калі разбіваецца асноўны элемент грамадства. Моцная сям'я — моцная Беларусь! Калі чалавек адчувае падтрымку сям'і, ён даб'ецца ўсяго, калі ён любіць сям'ю, то не кіне дзяцей з жонкай. Вялікія сялянскія сем'і выратоўвалі заўджы краіну пасля шматлікіх войнаў, іх рукамі былі адроджаны вёскі, гарады. Я бачу, як класны кіраўнік, сям'я мае вялікі ўплыў на дзіця. Ёсць сем'і небагатыя сярод маіх вучняў, але бацькі выхоўваюць дзетак у любові, узаемапавазе. Як настаўнік гатовы заўжды страціць сваю лішнюю хвілінку дзеля вучня, якому нешта не зразумела і чакае дапамогі, і робіць крокі для гэтага: пытаецца ў настаўніка, просіць дадатковыя заданні і т.д.

Багна ў сям'і, багна на працы стварае багну ў грамадскім жыцці: людзі глядзяць падазрона адзін на аднаго як воўк на воўка. Успамінаю ролікі з Ютуба, калі пад час чэмпіяната свету па хакею ў Мінску людзі з дзяржаўным і сцягамі крычалі «Жыве Беларусь!» і ніхто ім з міліцыі не супярэчыў. Таму і вынікае, што праблема багны грамадскага жыцця ў палярызацыі грамадства, а людзі нашы разумныя: не хочуць загінуць ў багне.

- Збольшага рытарычнае пытанне, але ж) Ці жадалі б Вы стаць прэзідэнтам і весці краіну за сабой?

— Каб весці краіну за сабой, трэба мець вопыт працы. Тым больш, я малады яшчэ каб казаць аб гэтым. У Беларусі шмат беларусаў, якія маглі гэта зрабіць. Магчыма новы лідэр з'явіцца хоць і не па выніках выбараў 2015 г., дык 2020 г. Будзе лепш, калі я буду займацца той справаю, якая зараз патрэбна Радзіме.

- Як трэба жыць маладому чалавеку, каб пазней яму не было сорамна?

— Аддаць сваё жыццё Богу: ісці туды, дзе адчуваеш у сабе патрэбу, быць чулым да людзей, не зважаючы ні на што, і ўмець прабачаць, бо робяць памылкі ўсе, таму хтосці прабачыць табе.

***Алесь Буракоў, milkmag.by***

## Автомобиль «БМВ» опрокинулся в Белыничком районе, погиб водитель

36-летний житель деревни Вылов погиб в ДТП около агрогородка Ланьково Белыничского района. Как рассказали в УВД облисполкома, авария произошла 22 апреля в 23.20 на автодороге Шклов – Белыничи. Водитель автомобиля «БМВ» не справился с управлением, съехал в кювет, ударился в дерево и опрокинулся, причинив себе смертельную травму.

## Угрожал убить

23 апреля Следственным комитетом возбуждено уголовное дело по ст. 186 УК (Угроза убийством) в отношении неработающего жителя г.п. Белыничи, 1977 г.р., который 24 марта возле дома по ул. Калинина, находясь в состоянии алкогольного опьянения, угрожал убийством ножом местной жительнице, 1986 г.р. Раскрыто УИМ, сообщает uvd.mogilev.by.

## Воруют…

24 апреля Следственным комитетом возбуждено уголовное дело по ст. 205 ч. 2 УК (Кража) в отношении жителя а.г. Б. Мощаница, 1994 г.р., и жителя г. Могилева, 1993 г.р., которые с 15 по 17 апреля в д. Гордово из сараев пенсионера, 1933 г.р., путем срыва навесных замков, похитили 4060 кг. лома металла. Раскрыто ОУР, сообщает uvd.mogilev.by.

## «КУРОЧКА НА ГНЕЗДЕ»…

*(Окончание. Нач. на стр. 2)*

что они не заметят её убогости.

Отшумит, отгудит за пару дней праздник «Дожинок» и мы останемся с тем, что имеем: с разбитыми дорогами в городском посёлке, с высокими непосильными ценами, с бурьяном на многих полях. Со своими думами и мыслями. Ведь вряд ли снесёт золотое яичко колхозная, как бы там её не переименовали, курочка.

***Зинаида Милещенко***

# БЕЗ ТРУБ И БАРАБАНОВ

**«Когда слишком много слов тратится на обещания - слишком мало оставляют на исполнение».**
***Константин Симонов***



## ПОД ТРУБЫ И БАРАБАНЫ

В апреле 2013 года государственные СМИ Беларуси с большим пафосом преподносили своим слушателям и читателям информацию о том, как руководство страны и областей оказывают содействие труженикам села в деле укрепления материально-технической базы производства. В частности, речь шла о передаче сельхозпредприятиям энергонасыщенных тракторов марки МТЗ.

«Ключи от новых тракторов 13 апреля получили 11 руководителей хозяйств Могилёвской области. Примечательно, что все они женщины. Паспорта на энергонасыщенную технику вручил губернатор области Пётр Рудник», - сообщало БелТА 13.04.2013года.

«Лучшие аграрии Могилёвской области получили 30 апреля в подарок за успешную работу 50 новых тракторов. Энергонасыщенная техника - подарок за успешную работу. Правда, не обошлось без интриги. Ключей вручили только 49. Тот район Могилёвской области, который первым завершит нынешнюю посевную кампанию, получит 50 тракторов в подарок», -радовали тружеников села в программе Новости «24 часа» СТВ.

В газете могилёвских аграриев «Земля и люди» в том же месяце 2013 года был помещён материал на ту же тему, в котором рассказывалось, что подаренные сельчанам энергонасыщенные тракторы были окроплены могилёвским православным священником в присутствии руководства области и отдельных регионов. В то время независимые журналисты по этому поводу высказали однозначно критическое мнение о том, что под пропагандистскую трескотню правительство страны спихивает в сельское хозяйство невостребованные на рынке тракторы марки МТЗ. Тем самым фактически ухудшает экономическое состояние производителей сельхозпродукции, вместо того, чтобы идти на конструктивные реформы производственных отношений. То, что позиция журналистов оказалась пророческой, в полной мере показали результаты производственно-экономической деятельности предприятий АПК страны двух последующих лет.

## БУМАЖНЫЕ РЕФОРМЫ И ЭФФЕКТИВНОСТЬ НА СЛОВАХ

Напомним, что в конце 2013 года руководство страны, на основании анализа показателей хозяйственно-экономической деятельности сельхозпредприятий и ситуации на внешних рынках, вновь заговорило о необходимости очередных преобразований в АПК Беларуси. «С окончанием переходного периода (а это примерно 5 лет) Россия будет обязана продавать нам энергоресурсы по мировым ценам, что неизбежно существенно повысит затратность аграрного производства, как и других отраслей народного хозяйства. Одновременно с этим через Россию на белорусский рынок будет неограниченно поступать продовольствие европейских и других стран по ценам, на фоне которых отечественная продукция в отдельных отраслях будет неконкурентоспособной. Кроме того, согласно международным соглашениям, государственные инвестиции в производственную сферу АПК должны быть сокращены… Таким образом, в течение ближайших 2-3 лет потребуется существенно перестроить аграрную отрасль республики, подготовить её к эффективному функционированию в условиях единого европейского и мирового рынка. Отсюда важнейшая задача сельхозпроизводителей - за 2-3 года сделать то, что мы не успели сделать ранее. А именно: научиться работать на принципах самофинансирования, в условиях новых механизмов государственной поддержки», - заявил в декабре 2013 года перед депутатами «палатки» вице-премьер М. Русый. Чуть раньше своим распоряжением А. Лукашенко создал специальную комиссию во главе с премьер-министром М. Мясниковичем для всестороннего изучения ситуации и внесения предложений по реформированию АПК. 17 июля 2014 года, на основании предложений этой комиссии, А. Лукашенко подписал сразу четыре Указа, которые по мысли их авторов должны существенно улучшить ситуацию в сельском хозяйстве Беларуси: №347 - «О государственной аграрной политике», №348 - «О мерах по повышению эффективности организации агропромышленного комплекса», №349 - «О реорганизации колхозов (сельскохозяйственных кооперативов)», №350 - «Об особенностях поставки сельскохозяйственной продукции для республиканских хозяйственных нужд».

*(Продолжение на стр. 6)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# БЕЗ ТРУБ И БАРАБАНОВ

*(Продолж. Начало на стр. 4)*

Сразу же после изучения содержания подписанных документов многие независимые аналитики и политологи высказали однозначное мнение, что все перечисленные в указах меры можно отнести к частичным (половинчатым) и они вряд ли способны сильно изменить ситуацию в лучшую сторону. Прежде всего потому, что в них, как и в других ранее подписанных правовых актах по вопросам реформирования села, не решается основной вопрос любого производства: вопрос собственности и реального собственника. Сегодня в Беларуси нет колхозов и совхозов, являющихся полновластными собственниками, которые бы самостоятельно и эффективно решали вопросы развития производства и роста, на этом основании, благосостояния своих работников. Что сеять, когда убирать, кому и по каким ценам продавать, у кого покупать - всё решается в кабинетах высоких чиновников, а не на местах самими тружениками.




Так происходит из года в год, со всё более худшими результатами для экономики хозяйств. Так, по итогам работы за январь-декабрь 2014 года сельхозорганизациями Могилёвской области получено выручки от реализации товаров (продукции, работ, услуг) 6,112265 трлн. рублей. Их финансовые обязательства на 1 декабря 2014 года составили 11,104044 трлн. рублей, то есть практически в два раза превысили стоимость реализованной продукции. Ещё три года тому назад это соотношение равнялось 1 к 1,5. Правда, по некоторым районам нашей области ситуация выглядит несколько лучше. По итогам работы сельхозпредприятий Белыничского района за вышеуказанный период выручка составила 223,4 млрд. рублей, а сумма финансовых обязательств –389,2 млрд. рублей, или в соотношении 1 к 1,7 раза. По Кричевскому району - 125,9 млрд. рублей и 331,2. При соотношении 1 к 2,6. Если на 1.12.2013 года сумма просроченных обязательств хозяйствами области составляла 653361млрд. рублей, то спустя год, на 1.12.2014 года, она увеличилась практически вдвое и составила уже 1 трлн. 344779 млрд. рублей. Резко возросло число убыточных сельхозпредприятий. На сегодняшний день около 80% из них не могут за счёт собственных средств своевременно выплатить заработную плату.

## БЕЗ ТРУБ И БАРАБАНОВ

В конце марта - середине апреля 2015 года в сельскохозяйственные предприятия нашего региона в массовом порядке стали прибывать тракторы МТЗ. В зависимости от района их число колеблется от 22-25 до 30-33 штук. Приблизительно около 30% полученных тракторов составляют энергонасыщенные марки по средней цене порядка 2,5 млрд. рублей за единицу. Остальные тракторы - марки МТЗ-80 и МТЗ -82, по цене от 250 до 300 млн. рублей. При этом в государственных СМИ про эти масштабные поставки техники практически ничего не говорят и не пишут, в отличие от апреля 2013 года. А всё по тому, и про это говорят даже рядовые механизаторы хозяйств, что таким образом руководство страны за счёт сельского хозяйства решает проблему сбыта неликвида и уменьшения складских запасов. По информации, проскакивающей в белорусских СМИ, на 1 января 2015 года число нереализованных тракторов на Минском тракторном заводе приблизилось к 13 тысячам единиц. Некоторые тракторы стоят «под забором» более двух лет и стали ржаветь. По крайней мере, такие тракторы со следами ржавчины были замечены в хозяйствах Кричевского, Краснопольского, Белыничского, Чериковского, Климовичского районов нашей области. По предварительной оценке независимых экспертов и некоторых специалистов облсельхозпрода, на хозяйства Могилёвщины таким образом дополнительно «повесят» порядка 490-530 млрд. рублей долгов. Вот вам и экономическое оздоровление сельхозпроизводства, и возрождение села.

Надо при этом заметить, что вышеназванная операция «Ы» проводится с благословения А.Лукашенко. Согласно подписанному им Указу, о котором практически ничего не говорят официальные СМИ Беларуси, в 2015 году Банк развития представит кредиты ОАО «Промагролизинг» на приобретение техники и оборудования для сельскохозяйственных организаций, а также других отраслей экономики. Указом предусмотрено право юридическим лицам республики на покупку современной техники(а не стоящей под забором, - автор) и оборудования за свои или заёмные средства без проведения конкурса (втихую, - автор) у «Промагролизинга». Такая закупка может производиться по договорам финансовой аренды, при этом авансовый платёж должен составлять как минимум 10%, если техника приобретается организациями АПК. Доход лизингодателя

*(Окончание на стр. 7)*

## БЕЗ ТРУБ И БАРАБАНОВ

*(Оконч. Начало на стр. 5, 6)*

устанавливается на уровне 2%. Согласно Указу, «Промагролизинг» заключает договор на приобретение техники и оборудования с производителем и впоследствии передаёт их в лизинг юридическим лицам. Банку развития предложено предоставить кредиты ОАО «Промлизинг»в белорусских рублях с погашением с 1.01. 2016 года. Кредиты предоставляются банком без уплаты процентов по их пользованию, если техника передаётся в АПК. По информации специалистов АПК, гарантами при этом выступают бюджеты районов. Учитывая, что у подавляющего числа сельхозпредприятий денег нет даже на приобретение ГСМ на посевную, гаранты будут вынуждены выплачивать и кредиты за приобретённую таким образом технику. На практике выходит, что за все просчёты руководства МТЗ и правительства будут рассчитываться налогоплательщики, то есть мы с вами, уважаемые читатели.

## О РОЛИ «СЛУГ»

По Конституции РБ депутаты «палатки» и местных Советов депутатов (и только они) утверждают на сессиях бюджет республики, областей и районов на каждый финансовый год. И только с их «одобрямс» в бюджете области и районов Могилёвщины появится (а может уже и появилась) в статье расходов «На поддержку развития АПК» кругленькая сумма в несколько миллиардов рублей на приобретение неликвида от МТЗ. И на такую же сумму сократятся расходы на медицинское обслуживание населения, образование, культуру, физкультуру и спорт, решение проблем ЖКХ. Фактически, за просчёты в работе соответствующих министерств и ведомств, которые так и не выполнили указания А.Лукашенко по работе в режиме «министерства торговли» и не сумели организовать продажу тракторов на внешних рынках, получению валюты для погашения внешнего долга в размере более 4 млрд. долларов США, расплачиваются налогоплательщики и предприятия села. Об этом уже не скрывая говорят рядовые механизаторы СПК.

***Василий ЧУБ***

# АХОЎНІК ПАРАДКУ ЦІ “МЕНТ”?

### Былы бялыніцкі міліцыянер падзяліўся сваімі разважаннямі на гэты конт

***Калі верыць шматлікім апытанням, менш за 40% беларусаў цалкам давяраюць міліцыі. Але ж гэтая структура, якая, здавалася б, выконвае даволі прываблівую функцыю - ахоўваць і абараняць. У чым парадокс?***




“Сёння кіраўніцтву міліцыі складана змяніць свой імідж у лепшы бок. І на гэта ёсць некалькі прычын, - дзеліцца сваім меркаваннем былы супрацоўнік бялыніцкай міліцыі, праваабаронца Андрэй Палуда. - Супрацоўнікі нашых праваахоўных органаў часта выконваюць функцыі, якія не ўласцівыя іх прафесіі. Гаворка ідзе пра палітычныя задачы. У гэтых выпадках міліцыянты не думаюць пра простых людзей, на якіх аказваецца ціск. І якія пасля пачынаюць ставіцца да крыўдзіцеляў адпаведна. Акрамя гэтага, кажучы пра стаўленне да міліцыі, мы не можа не звярнуцца да гісторыі. Сістэма, якая склалася ў савецкія часы, дае ведаць пра сябе. Часы НКВД адрознівала пагоня за паказчыкамі, калі праваахоўнікі забывалі аб чалавечых якасцях і імкнуліся толькі да патрэбных лічбаў. Нярэдкія былі выпадкі, калі супрацоўнікі структур проста прыязджалі на месца і звозілі з сабой людзей, якіх пасля больш ніхто не бачыў”.

На думку праваабаронцы, у часы СССР праваахоўныя органы ўспрымаліся як карныя. Такое стаўленне адразу не змяніць. Патрэбна праца, час і, вядома, станоўчыя прыклады.

“Тут яшчэ трэба разумець, што міліцыянты - людзі, якія не могуць быць альбо добрымі, альбо дрэннымі. Кожны чалавек валодае сваім наборам чалавечых якасцяў. Хтосьці па жыцці паводзіць сябе годна, а хтосьці выяўляецца не з самага лепшага боку”.

На прычыны негатыўнага стаўлення да міліцыі можна пагдядзець і з пункту гледжання псіхалогіі. Андрэй Палуда лічыць, што нашыя бацькі ўплываюць на гэтае пытанне з самага дзяцінства.

“У нас як? Што кажуць нашы мамы і таты дзецям, якія дрэнна сябе паводзяць? Калі ты зараз не супакоішся - прыйдзе дзядзька міліцыянер і забярэ цябе ў турму! Такая пагроза спараджае страх. Падсвядома дзіця ўжо з негатывам пачынае глядзець на міліцыянтаў. Акрамя гэтага, у яго паступова фармуецца лінія паводзін, якая пазней дае аб сабе ведаць. Мы вырастаем, а падсвядомы страх застаецца. І быццам мы нічога не зрабілі, спакойна сабе ідзем па вуліцы, але варта ўбачыць міліцыянта і

*(Заканчэнне на стар. 8)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

***Соратнику по РЭПу, жителю бывшей деревни Бохань, Шереметову М.М. посвящаю в очередную годовщину Чернобыльской беды. ( Написано с его слов).***

## ДЕРЕВНЯ БОХАНЬ

Я тебя вспоминаю со вздохом,
Невозможно унять эту боль!
Деревенька любимая Бохань,
Тяжело мне прощаться с тобой.

Ты Чернобыльским пеплом осыпана,
Как с поникшей стоишь головой,
Заросла вся берёзками, липами
И полынною горькой травой.

А когда-то вились тропки узкие,
Расцветал по весне майский сад…
Плачут буслы твои белорусские
Над руинами брошенных хат.

Ах, ты, детство моё босоногое!
Сколько радости было и слёз!
Бохань нас провожала дорогою
Меж раскидистых стройных берёз.

Почернели берёзки плакучие
Той Чернобыльской страшной весной.
Мы с тобой, моя Бохать, разлучены
Той бедою страшней чем войной.

Ведь враги нападали не внешние,
Не фашистов топтала нога,
Коммунисты – предатели здешние,
Что страшнее любого врага.

Что от нас злую правду запрятали,
Обрекли на болезни и смерть.
Разлучили с родимыми хатами,
И сожрал их Чернобыльский смерч.

Как берёзки твои сиротливые,
Не смогли мы прижиться нигде.
Лишь с тобою мы были счастливые
В каждой радости, да и в беде.

Где же? Где, боховчане вы милые?
И нашли ли свой дом и уют?
На кладбище, над каждой могилою
Только ветры шальные поют.

И вернуться, порою, так хочется,
Моя Бохань, к святым тем крестам.
И пройтись и полями, и рощицей,
К дорогим возвращаясь местам.

Разбросало не ветром по свету нас,
А Чернобыльской страшной бедой.
Не порадуешь ты нас рассветами,
Ведь навек мы расстались с тобой.

Без тебя на чужбине так плохо!
И печаль не ухолит с лица…
Деревенька моя, наша Бохань,
Ты жива всегда в наших сердцах.

***Зинаида Милещенко***

## У МАГІЛЁЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ ЗАРОБКІ РАСТУЦЬ ТОЛЬКІ Ў БЮДЖЭТНІКАЎ

*(Заканч. Пачатак на стар. 1)*

Затое ў той жа адукацыі, якая знаходзіцца “на бюджэце”, сярэдні заробак склаў 4 618,7 тыс. рублёў і рэальна павялічыўся ў параўнанні з мінулагоднім на 7,1 %. Заработная плата работнікаў аховы здароўя ў сакавіку склалася ў памеры 5 391 тыс. рублёў, што з улікам роста спажывецкіх коштаў на тавары і паслугі на 12,3% вышэй, чым у годам раней.

Безумоўна, можна толькі парадавацца за нашых бюджэтнікаў і за рост іх заробкаў, аднак,калі пачынаеш крыху задумвацца, асаблівых падстаў для радасці чамусьці не знаходзіш. Ужо некалькі месяцаў запар эканоміка Магілёўскай вобласці знаходзіцца ў стагнацыі, змяншаецца аб’ём вытворчасці і рэалізацыі прадукцыі, пагаршаецца эканамічны стан прамысловых і сельскагаспадарчых прадпрыемстваў. Так, дэкларуемая пратэрмінаваная запазычанасць па заработнай плаце ў вобласці на 1 красавіка складала 26,4 млр. рублёў, альбо 1,5% ад фонда заработнай платы за люты.

Расце і запазычанасць арганізацый вобласці па крэдытах і пазыках на выплату заработнай платы – на 1 сакавіка 2015 г. яна складала 186,8 млр. рублёў, альбо 10,7% ад налічанага за месяц фонда заработнай платы.

Складваецца ўражанне, што праблемы працаўнікоў прамысловасці і сельскай гаспадаркі нашы ўлады не вельмі хвалююць. Іншая справа бюджэтнікі - напрыканцы красавіка Саўмін прыняў чарговую пастанову, якая дазваляе раз на квартал падвышаць ім заработную плату за кошт эканоміі бюджэтных сродкаў, выдзеленых арганізацыі. Зразумела, што ўжо ў хуткі часе павінны адбыцца чарговыя “выбары прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнка”, таму залагоджваць працаўнікоў бюджэтных арганізацый, якія складаюць аснову выбарчых камісій, уладам, безумоўна, трэба.

Ну а працаўнікі рэальнага сектара эканомікі краіны няхай самі выжываюць, калі змогуць, хоць менавіта яны і забяспечваюць паступленне ў казну дзяржавы тых грошай, якія ідуць на выплату заробкаў бюджэтнікам.

***Барыс Вырвіч***

## АХОЎНІК ПАРАДКУ ЦІ “МЕНТ”?

*(Заканч. Пачатак на стар. 7)*

ўнутры з’яўляецца нейкі дыскамфорт. Мы пачынаем нервавацца. А ўжо на гэта адказвае іншы бок. Сам праваахоўнік, убачыўшы такое, пачынае думаць: “Так, нездарма нярвуецца - значыць, вінаваты!”. І тут можа пачацца канфлікт”, - працягвае праваабаронца.

На адным з форумаў, дзе абмяркоўвалася стаўленне да міліцыянтаў у Швецыі, была выказана цікавая думка. Там, па запэўненні жыхаркі Стакгольма, рэакцыя на міліцыянтаў спакойная. “Калі ў чалавека не было ніякага асабістага вопыту зносінаў з прадстаўнікамі органаў, то ніякага ўнутранага страху пры сустрэчы з імі не ўзнікае. Калі ж чалавек загадзя адчувае сябе падазраваным, то ў нас гэта разглядаецца як прыкмета нясмеласці. Мяркуецца, што псіхалагічна спелы чалавек упэўнены ў сваёй невінаватасці і не ўпадае ў паніку пры выглядзе паліцэйскага. Яны ж нашы абаронцы”. Калі такое становішча спраў будзе адрозніваць Беларусь - вялікае пытанне.

“Змяніць сітуацыю ў кароткія тэрміны не атрымаецца. Але працаваць адназначна трэба. У першую чаргу, праваахоўнікі павінны адмовіцца ад выканання палітычных задач. І, вядома, трэба паралельна займацца з насельніцтвам, распавядаючы пра сітуацыі, калі міліцыянты паказалі сябе з лепшага боку. Усё ж такі ў структурах хапае людзей, якія робяць сваю справу па сумлення і паклікання. Дастаткова тых, хто гатовы абараняць і ахоўваць, чым сістэматычна і займаецца”, - перакананы Андрэй Палуда.

***“Магілёўская “Вясна”***

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем выдаўца газеты.

Адрас рэдакцыі: 213173, Бялыніцкі раён, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. E-mail: boris196608@bk.ru. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 06.05. 2015 г. у 19-00.